

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
ЧЭРВЕНЬ
6
АЎТОРАК
№ 81/ 1010
Цана
200 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### МЕНЕДЖЭР - ПРАФЕСІЯ ДЛЯ ЎСІХ

По пагадненні з Дортмундскім цэнтрам прафесійнай рэабілітацыі ў Мінску на базе Беларускага навукова-даследчага інстытута экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў са студзеня адкрываецца эксперыментальны цэнтр па навучанні інвалідаў прафесіі «менеджэр у гандлёвай сферы».

Усе выдаткі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні цэнтра бярэ на сябе Міністэрства працы і сацыяльнага парадку Германіі. Германскі бок зоймецца і падрыхтоўкай для цэнтра выкладчыкаў. «Дыпломы заходнееўрапейскага ўзору здымаюць пытанні аб працаўладкаванні выпускнікоў, прафесія якіх карыстаецца зараз вялікім попытам на Беларусі», — лічыць намеснік дырэктара Інстытута экспертызы па тэхніка-эканамічных пытаннях Іван Мінакоў. У Германіі, дзе сістэма перавучвання інвалідаў дзейнічае ўжо дзесяцігоддзі, рэабілітацыйныя цэнтры вяртаюць да працы 80% інвалідаў. Мінск жа стане чацвёртым горадам былога Саюза пасля Рыгі, Санкт-Пецярбурга і Новакузнецка, у якім Германія ажыццявіць свой менеджэрскі праект для інвалідаў.

Наталля ВАЛАКІДА.

### ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРЫ КРАІН САДРУЖНАСЦІ СУСТРЭНУЦЦА Ў ВЕРАСНІ

Чарговаму саміту кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін Садружнасці, які адбудзецца 3 лістапада ў Сочы, будзе папярэднічаць асобная сустрэча прэм'ер-міністраў. Яе правядзенне выклікана неабходнасцю часткова «разгрузіць» прэзідэнтаў: ужо на працягу некалькіх сустрэч на вышэйшым узроўні апошнімі выказваецца пажаданне ў пэўнай ступені адысці ад абавязковага парадку дня і асноўную ўвагу надаваць найбольш «гарачым» пытанням і праблемам Садружнасці, якія маюць глабальны характар. Абмеркаванне ж большай часткі запланаваных пытанняў можа заканчвацца на ўзроўні кіраўнікоў урадаў. Далей належным чынам афармленыя дакументы павінны выносіцца на Савет кіраўнікоў дзяржаў выключна для падпісання. На парадку дня запланаванай на сярэдзіну верасня сустрэчы прэм'ер-міністраў будзе каля дваццаці пытанняў, што тычацца ў асноўным праблем эканамічнай інтэграцыі. Дакладная дата і месца правядзення сустрэчы пакуль не вызначаны. Магчыма, кіраўнікі ўрадаў збяруцца ў Маскве, бо менавіта там размешчаны Міждзяржаўны эканамічны камітэт, які курыруе пытанні эканамічнага супрацоўніцтва.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ.

### ПРОГРЕССИВНЫЕ СИЛЫ С ДУМОЙ О БЕЛАРУСИ

Предположительно в середине июля в Минске под эгидой Национальной ассоциации содействия социально-экономической реформе «Геополитика. Интеграция. Прогресс» пройдет III Ассамблея прогрессивных сил Республики Беларусь, в которой примут участие депутаты Верховного Совета нового созыва, ведущие ученые и общественно-политические деятели республики, журналисты. По словам генерального директора ассоциации Геннадия Щербинина, основной темой выступлений на ассамблее станут состоявшиеся в мае парламентские выборы, в частности, будут подведены их итоги (по предварительным данным, в новый состав Верховного Совета прошло 18 членов ассоциации), а также определены кандидаты в депутаты от ассоциации, которые примут участие в повторных выборах осенью 1995 года. Кроме того, планируется представить участникам ассамблеи научно-исследовательский проект «Цивилизованный выбор Беларуси на рубеже веков», разработанный силами 40 крупнейших ученых Беларуси. По словам Г.Щербинина, данный проект, включающий в себя концепцию социально-экономического развития Беларуси на ближайшую и отдаленную перспективу, а также принципы выработки в республике национальной идеи, будет направлен руководителям страны для ознакомления.

В ходе работы ассамблеи также состоится съезд организации ветеранов «Свободный выбор» и учредительная конференция Независимой ассоциации журналистов.

Наталья ПИНЧУК.

### В ВОЙСКАХ ПРОШЛА ПРОВЕРКА

Прошедшая в конце мая в Вооруженных Силах Беларуси итоговая проверка показала высокий уровень боеготовности частей и соединений. Оценки, выставленные на контрольных занятиях, — своеобразный итог боевой подготовки войск за зимний период обучения 1995 г.

Как сообщили в пресс-службе Министерства обороны, в ходе проверки авторитетными комиссиями Минобороны были определены уровень боевой подготовки штабов, соединений и частей, теоретические знания и практические навыки офицеров и прапорщиков, солдат и сержантов срочной службы, а также контрактников, число которых в армии уже составляет около 12% личного состава. Заметно улучшилась и обстановка в воинских коллективах: военнослужащие начали серьезней относиться к своему делу. Практически нет равнодушных к полученной оценке. Поэтому неудивительно, что в армии нет подразделений, получивших «неудовлетворительно».

Вместе с тем, проверка выявила и некоторые недостатки, в основном связанные с реорганизацией частей и соединений. Они подробно изучаются специалистами, и на предстоящей коллегии Министерства обороны будут вынесены конкретные предложения по их устранению.

Сергей ВЕРЕЩАК

### МАТОРНЫ ЗАВОД ПАПЯРЭДЖВАЕ

Удзельнікі канферэнцыі Свабоднага прафсаюза Мінскага маторнага завода запатрабавалі ад адміністрацыі прадпрыемства няўхільнага прытрымлівання графіку выплат зарплаты, а таксама ўстанаўлення тарыфнай сеткі першага разраду на ўзроўні не ніжэй за 50 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту для члена сям'і з чатырох чалавек. У выпадку невыканання вышэйпералічаных патрабаванняў прафсаюз заклікаў работнікаў прадпрыемства распачаць з 20 чэрвеня гэтага года бестэрміновую забастоўку.

У распаўсюджанай Свабодным прафсаюзам ММЗ заяве таксама адзначаецца, што забастоўка будзе праводзіцца ў строгай адпаведнасці з законам аб калектыўных працоўных спрэчках, а таму яе ўдзельнікі не могуць быць прыцягнуты да дысцыплінарнай альбо іншай адказнасці.

Сяргей ГРЫБ.

### □ КОРАТКА

8-10 чэрвеня міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Анатоль Кастэнка возьме ўдзел у нарадзе кіраўнікоў ваенных ведамстваў краін-членаў і партнёраў Паўночнаатлантычнага блока, якая адбудзецца ў Брусэлі. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе Міністэрства абароны рэспублікі. На нарадзе плануецца абмеркаваць шэраг ключавых пытанняў, што тычацца еўрапейскай бяспекі і далейшага супрацоўніцтва ў рамках праграмы «Партнёрства ў імя міру».

***

**5–10 июня в помещении философско–экономического факультета БГУ проходит конференция «Подготовка специалистов в области коммуникаций и социальные потребности общества».**

**Это один из конкретных шагов БГУ в реализации проекта по подготовке в нашей стране специалистов в данной области.**

**Принять участие в конференции приглашены представители белорусского правительства, экономисты, рекламные и информационные агентства, специалисты в области «паблик рилейшнз», представители средств массовой информации.**

***

8 июня в Белорусском национальном художественном музее открывается выставка «Прикладное искусство Китая».

Накануне официального визита премьера Госсовета КНР г-на Ли Пэна в Республику Беларусь, минчане впервые смогут познакомиться с «жемчужинами» прикладного искусства этой древней цивилизации. Китайскую культуру будут представлять более 150 экспонатов, среди которых — воздушные змеи, дворцовые фонари, настенные ковры, изделия из фарфора, нефрита, лаковые росписи, эмали и керамика. Каждый из этих промыслов в Китае насчитывает тысячелетнюю историю.

Выставка продолжит работу до 23 июня.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 6 июня 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| БЕЛАРУСБАНК | 11450* | 11750* | 8000* | 8400* | 1.8* | 2.5* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11350* | 11700* | 7900* | 8500* | 2.2* | 2.6* |
| ТЕХНОБАНК | 11250 | 11600 | 7900 | 8200 | 2.2 | 2.35 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11400* | 11670 | 7900* | 8250 | 2.22 | 2.34 |
| ПРИОРБАНК | 11400 | 11700 | 7900 | 8250 | 2.25 | 2.7 |
| СБЕРБАНК | 11250 | 11750 | 7750 | 8200 | 1.8 | 2.5 |
| ОЛИМП | 11350* | 11630* | 7777* | 8212* | 2.2* | 2.4* |
| ФК "Вероника"*** | 11450* | 11680* | 8000* | 8300* | 2.28* | 2.37* |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 11400* | 11700* | 7900* | 8200* | 2.2 | 2.35* |
| "ИНТЕК" | 11550* | 12000* | 7900* | 8300* | 2.0* | 2.40* |
| ДУКАТ | 11250* | 11650 | 7800 | 8300 | 2.2* | 2.7** |
| МинскКОМПЛЕКСБАНК | 11280 11370** | 11640 11650** | 7745 7807** | 8140 8230** | 2.22 | 2.5 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11500 | 12000 | 7900 | 8400 | 2.1 | 2.5 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11350 | 11700 | 7900 | 8200 | 2.15 | 2.35 |
| ЭЛИТБАНК | 11400 | 11750 | 7800 | 8400 | 1.9 | 2.45 |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11500* | 11750* | 7900* | 8300* | --- | --- |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11300* | 11650 | 7900* | 8150 | 2 | 2.4 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11200 | 11650 | 7800 | 8400 | 1.7 | 2.3 |

* Возможна операция за наличный и безналичный расчет

** Операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

| | | | |
|---|---|---|---|
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8040.27 | 2.25 |

## ДЗЕЛАВЫ МІНСК

### КАБ БЫЎ ДОМ СУЧАСНЫМ І ЎТУЛЬНЫМ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Сёння ў сталіцы адкрыліся тры выставы. Адна з іх — «Будінвест-95», арганізаваная міністэрствамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, архітэктуры і будаўніцтва, інстытутам «Белжылпраект» і фірмай «Экаінфармсістэма», — працуе ў выставачнай зале інстытута «Белжылпраект» (вул. Кальварыйская, 17). Больш 40 прадпрыемстваў і фірмаў Беларусі, Расіі, Польшчы, краін Балтыі дэманструюць і прапануюць спажыўцам будматэрыялы і сантэхнічнае абсталяванне, энергазберагаючыя тэхналогіі і сістэмы, праекты розных будынкаў, разнастайныя аддзелачныя матэрыялы і будаўнічы інструмент, шмат чаго яшчэ, што, безумоўна, зацікавіць як будаўнічыя арганізацыі, так і тых, хто будуе лецішча альбо робіць рамонт у кватэры.

Так, гаспадар — інстытут «Белжылпраект» — прадстаўляе на выставе праекты мадэрнізацыі, рэканструкцыі, капітальнага рамонту жылля першых масавых серый забудовы (так званых «хрушчовак»). А іх ў горадзе не так і мала.

-- Мы можам прапанаваць праект і тэхналогію мадэрнізацыі такога жылля, — тлумачыць галоўны архітэктар, намеснік дырэктара Інстытута «Белжылпраект» Валерый Іванавіч Шчэрбіч, — як з адсяленнем жыльцоў, так і без яго. Пасля рэканструкцыі кватэры і дамы адпавядаюць сучасным патрабаванням камфорту. Напрыклад, па нашаму праекту зроблена рэканструкцыя дома па вуліцы Асіпенкі, 21. Інстытут таксама мае праекты надбудовы мансард над пяціпавярховымі будынкамі, дзе атрымліваюцца даволі ўтульныя і танныя кватэры. Ёсць праект рэканструкцыі цэлага квартала пяціпавярховак у раёне праспекта Пушкіна. Прычым, каб жыхары не выязджалі з раёна, да якога прызвычаіліся, прадугледжана будаўніцтва ўставак паміж дамамі. На жаль, няма інвестара для ажыццяўлення гэтага праекта...

Галоўны інжынер АТ «Мінскрэмбуд» Алег Уладзіміравіч Драгун прапануе на стэндзе новыя матэрыялы для рамонту дахаў і шклопакеты, якія можна ўстаўляць у звычайную сталярку (пасля невялічкай яе дапрацоўкі). У выніку значна паляпшаецца гукаізаляцыя (нездарма гэтыя пакеты будуць ставіцца ў дамах па вул. Пляханава і Харкаўскай, дзе вялікі шум ад грамадскага транспарту), і не губляецца цяпло з кватэр. Увогуле, зберажэнню энергіі, рацыянальнаму выкарыстанню яе, таксама як і вады, газу, цяпер надаецца шмат увагі. Так, прадпрыемства «Грансістэма» дэманструе чатыры тыпы лічыльнікаў вады «Струмень», як для асобных кватэр, так і для ўсяго дома. Усе яны атэставаны Дзяржстандартам, даволі танныя і вельмі надзейныя. Тут жа дэманструецца кватэрны цеплаабменнік, які дазваляе значна зменшыць траты на ацяпленне кватэры.

Зразумела, жыллё, дом, павінны быць не толькі эканамічнымі і рацыянальнымі, але таксама прыгожымі і ўтульнымі. І на выставе ёсць шмат чаго для гэтага. Нікога не пакінуць абыякавымі абліцовачныя пліткі з Польшчы, шпалеры з розных краін, фінскія фарбы, якія прапануе СП «Белфін». Яны вельмі даўгавечныя, служаць восемдзесяць гадоў, не трэскаюцца, не выгараюць на сонцы. Багацце колераў іх уражвае — каля 700. Гэтымі фарбамі пафарбаваны ўсе гістарычныя помнікі Санкт-Пецярбурга. Магчыма, што і дамы ў нашым горадзе калі-небудзь будуць пафарбаваны імі.

## ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

### СВЯТА СЯБРОЎ ДЗЯЦІНСТВА

«Ураджайным» на віншаванні лаўрэатаў незвычайных прэмій Беларускага дзіцячага фонду стаў Міжнародны дзень абароны дзяцей у рэспубліцы.

За шматгадовую дапамогу дзіцячым сіроцкім установам, падтрымку юных талентаў і дзяцей-інвалідаў, удзел у дабрачынных мерапрыемствах унікальная прэмія «Сябар дзяцей» прысуджана генеральнаму дырэктару беларуска-германскага прадпрыемства «Белвест» Ларысе Іванаўне Кузняцовай, кіраўніку механізаванай калоны №84 трэста «Захадэлектрасеткабуд» Захару Захаравічу Тарасевічу, намесніку дырэктара акцыянернага прадпрыемства «Дываны Брэста» Надзеі Рыгораўне Яшчук.

Сярод лаўрэатаў ёсць і замежныя прадстаўнікі: кіраўнік дабрачыннага фонду дапамогі беларускім дзецям у Канадзе Шэрлі Грэмячаў-Макдональд і кіраўнік дабрачыннай арганізацыі ЗША «Глабальная дапамога» Норман Янг, які, дарэчы, прыбыў днямі ў Мінск з карысным падарункам мінчанам — абсталяванай самай сучаснай медыцынскай тэхнікай машынай хуткай дапамогі.

Унікальная прэмія імя Зінаіды Тусналобавай-Марчанкі прысуджана самым дружным калектывам шматдзетных сем'яў: Галіне Аляксееўне і Леаніду Аляксеевічу Афанасьевым са Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці, Веры Ільінічне і Іосіфу Іванавічу Сафончыкам з Полацка, Алене Васільеўне і Дзмітрыю Васільевічу Пытлякам з Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узнагароджаны і актывісты Дзіцячага фонду — намеснік дырэктара па вучэбнай выхаваўчай рабоце сярэдняй школы №1 г. Вілейкі Мікалай Мікалаевіч Гіро, сакратар камісіі па справах непаўналетніх Мазырскага райвыканкама Таццяна Іванаўна Дубікоўская, настаўніца Баравікскай базавай школы Браслаўскага раёна Аляўціна Васільеўна Самуль, урач-лабарант бальніцы хуткай дапамогі Гомеля Надзея Мікалаеўна Сіротка, дырэктар Гарадзішчанскага дзіцячага дома-інтэрната Баранавіцкага раёна Георгій Іванавіч Сказу, намеснік прэзідэнта Беларускага дзіцячага фонду Аляксандр Васільевіч Трухан.

І, безумоўна, самыя цёплыя віншаванні і пажаданні поспехаў атрымалі ў першыя дні лета стыпендыяты Дзіцячага фонду, юныя таленты, пачынаючыя вучоныя і палітыкі.

Па добрай традыцыі ў гэтыя дні прайшлі разнастайныя дабрачынныя акцыі і мерапрыемствы па ўсёй рэспубліцы. Так, напрыклад, у Гомельскай вобласці паспяхова завяршылася міласэрная акцыя дабра «Дапаможам дзецям» у падтрымку малалетніх ахвяр чарнобыльскай катастрофы, сірот пад апекай і непаўналетніх інвалідаў. У Магілёве выпускны баль сабраў выпускнікоў сіроцкіх інтэрнатаў. У Гродзенскай, Віцебскай і Брэсцкай абласцях адкрыліся выставы дзіцячай творчасці, прайшлі канцэрты самадзейнасці. А юным мінчанам і гасцям сталіцы надоўга запомняцца дабрачынны спектакль у Тэатры юнага гледача, адкрыццё воднага свята на Камсамольскім возеры, першы тэатральны фестываль дзіцячых тэатральных калектываў, дабрачынны канцэрт зорак эстрады з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры ўпраўлення справамі пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Прэс–цэнтр Беларускага дзіцячага фонду.

## СЕМИНАРЫ

### КАК ИЗБЕЖАТЬ СПИДА?

Эпидемия, вызванная ВИЧ-инфекцией и СПИДом, продолжает распространяться, и все большее число людей сталкивается с ситуацией, когда зараженным оказывается кто-то из близких. Знание о болезни сопряжено с серьезным психологическим стрессом, оно может провоцировать чувство страха, вины, депрессию, отрицание, гнев или даже суицидальные попытки. Чтобы успешно справляться с такой реакцией, людям нужна практическая и психосоциальная поддержка и понимание, а также достоверная информация о последствиях ВИЧ-инфекции, в том числе и о реальных способах предотвращения дальнейшего распространения ВИЧ. Все это дает квалифицированное консультирование.

С 6 по 9 июня Всемирная организация здравоохранения и Национальный центр профилактики СПИДа Республики Беларусь в Минске проводят республиканский семинар по консультированию, профилактике, диагностике, лечению и уходу за ВИЧ-инфицированными и больными вензаболеваниями.

Ведут семинар представители ВОЗ г-жа Рива Миллер и г-жа Сара Медж. Участники семинара — гинекологи, венерологи, эпидемиологи, медсестры республики.

Цель семинара — оказание помощи работникам здравоохранения в проведении консультативной работы с людьми, которых прямо или косвенно касаются проблемы СПИДа.

### БЕЛАРУСЬ — ОБРАЗОВАНИЕ - 95

15-17 июня Белорусский государственный университет станет местом проведения международной выставки-семинара «Беларусь — образование-95». Организует ее Министерство образования и науки РБ, БГУ и Международная ассоциация консультантов в области образования (Германия).

Тематика выставки-семинара предлагает такие разделы, как «Образование и наука», «Международное образование», «Научные исследования и туристические программы», «Издательства для образования и науки», «Книжная ярмарка».

В работе «Беларусь — образование-95» примут участие международные фонды, финансирующие образовательные программы, турбюро, издательства. Приглашены также представители зарубежных посольств в Минске.

Александр КАЗАК.

## КРИМИНАЛ

### В МУЗЕЙ С ГРАБИТЕЛЬСКИМ «УСТАВОМ»?

Николай ПТУХА, пресс–центр УВД г.Минска.

**За минувшую неделю в городе совершено 132 преступления, 54 из них раскрыто по «горячим следам». Сотрудниками городской милиции расследовано 41 преступление из ранее совершенных. Навсегда ушли из жизни по собственному желанию 6 человек.**

Анализ совершенных преступлений показывает, что довольно большую их часть провоцируют сами потерпевшие. И эта тенденция все более отчетлива.

Незакрытые форточки, открытые двери, халатность и излишняя доверчивость граждан привлекают преступников и облегчают их действия. Так, на прошлой неделе, воспользовавшись открытым окном, неизвестный проник в прачечную одного из детских садов. Пробравшись к шкафу с вещами работников прачечной, он похитил из карманов одежды деньги. Этого бы не произошло, если бы окна бытовки и сам шкаф были закрыты.

Отмечен целый ряд преступлений, связанных с автотранспортом.

Сегодня престижно иметь автомобиль. Но немногие догадываются, что с его приобретением появится уйма проблем. Больше всего хлопот, как правило, у тех, кто оставляет автомобиль «бесхозно» на улице. Чем «круче» машина, тем больше привлекает она любителей легкой наживы. Поэтому и участились не только угоны, но и мелкие кражи из автотранспорта, которыми жулики не брезгуют.

Так, 30 мая сотрудниками Заводского отдела охраны задержан учащийся одного из минских ПТУ. Под покровом глубокой ночи он снял с автомобиля «Фольксваген», стоявшего в одном из дворов по ул.Кабушкина, четыре колпака. Благо, повезло владельцу, что рядом оказался наряд милиции, иначе пришлось бы ему долго бегать по рынкам, покупая колпаки для своей машины.

Посещение музея всегда оставляет массу впечатлений и ощущений. Но будут ли они приятными для братьев Ч.? Их задержали милиционеры Центрального отдела охраны за повреждение 26 газосветных трансформаторов, которые были установлены на крыше музея Великой Отечественной войны. Степень их виновности определит суд.

## ФОТОРЕПОРТАЖ

### КТО ВИНОВЕН В ЭТОМ?



Более года назад на трамвайной остановке «Дворец детей и молодежи» появились люди с техникой. В одночасье они снесли навес, который предохранял людей от непогоды. Отволокли его далеко в сторону... А восстановить забыли и по сей день. Сейчас рядом идет строительство автостоянки, причем в сотнях метров от Комсомольского озера и дворца, в экологически чистой зоне. Несмотря на протесты жильцов близлежащих домов. Возможно, в Центральном райисполкоме ответят, кто в этом повинен, дал «добро»?

Второй снимок сделан на одной из остановок по проспекту Машерова. «Поработали» подонки. В ночное время разбили около десятка остеклений импортных навесов. Тащили рекламные плакаты сигарет «Мальборо». А возможно, в удовольствие.

Текст и фото Анатолия ДРОЗДОВА.





## СТАТИСТИКА

### «БЕСЦЕННЫЕ НАШИ ПРОДУКТЫ...

Как свидетельствуют статистические данные, цены на основные продовольственные товары в государственной, кооперативной и коммерческой торговле страны в январе-апреле текущего года возросли по сравнению с аналогичным периодом прошлого следующим образом.

Мясо и птица — рост на 2078%, колбасные изделия — на 1856, молочные продукты — на 4259, масло животное — на 2802, масло растительное — на 2122, яйца — 2438, хлеб и хлебобулочные изделия — на 3137, мука — на 2017, крупа — на 1892, сахар --на 2509, картофель — на 2375, овощи — увеличение на 1951%.

Наиболее высокими темпами в апреле текущего года росли цены на овощи — на 30,3%, на алкогольные напитки — на 28,2%, на сыр мягкий — на 25,2%, на муку — на 23,8%. На 18-20% возросли цены на картофель, фрукты, кондитерские изделия, безалкогольные напитки, на 11-14% — на творог жирный, кефир, макаронные изделия, на 8-9% — на крупу, бакалею и хлебобулочные изделия, на 5-7% — на мясо и птицу, мясные консервы, молоко, сыр, масло животное, рыбу, консервы рыбные, сахар. Правда, на 3,4% подешевели яйца, на 1,7 — рыба мороженая, на 1,3 цитрусовые, на 1,2 — сельдь.

Сергей РАСОЛЬКО, РИД.

